# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 8 (678) 23 ЛЮТАГА 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## Наш Каляндар

## СЯРГЕЙ ДАРОЖНЫ

**60 год таму, 25 лютага 1909 года ў горадзе Слоніме ў сям'і служачага нарадзіўся беларускі паэт Сяргей Дарожны (Сяргей Серада). У трыццатых гадах скончыў беларускі ўніверсітэт. З 1930 года працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў. Паэтычную дзейнасць С. Дарожны пачаў у 1925 г. Праз год ён у сааўтарстве з І. Плаўнікам выдаў зборнік вершаў «Звон вясны». Наступныя зборнікі: «Васільковы россып» (1929) і «Пракосы на памяць» (1932). Жыццё таленавітага паэта абарвалася ў 1938 годзе.**

**Ніжэй змяшчаем два вершы С. Дарожнага, напісаныя ім у 1928 годзе.**

### РЫБАКІ

Вецер стамлёны прылёг на траве,
Месяц блішчыць над ракою.
Мрок задуменна на бераг плыве
Ў цьмяных адценнях спакою.

Ў соннай вадзе задрамалі чаўны,
Вербы схіліліся ў ценях.
Срэбныя сеці раскінулі сны
Між трыснягоў і каменняў.

Спяць берагі у начной цішыні,
Завадзі ў месячным вецці...
Там рыбакі з ледзяной глыбіні
Цягнуць стамлёныя сеці.

Там устрывожанай хваляй вада
Б'ецца ў нахмураны бераг
І, адплываючы ў цьмяную даль,
Сполахам крыецца шэрым.

Ціха і моўчкі ідуць рыбакі,
Месяц люстэркаю свеціць:
Што прынясуць на ўзбярэжжы ракі
З завадзей цяжкія сеці.

Думкі, як хвалі у звыклай хадзе.
Повень дакурвае люльку
І туманы, нібы дым на вадзе,
Чэзнуць у далёкім затулку.

Ноч. У надзеях нацяты канат
К берагу блізіць удачу:
Свежая рыба на жоўты пакат
Срэбрам зіяючы скача.

Дальнія хвалі вітаюць пачын.
Раніца сеці збірае.
Недзе у досвітку певень крычыць,
Месяц блішчыць за гарамі.

Човен яго ля сінеючых вод
Дзесьці бярэцца на прывязь.
Днее. І ноч пакідае ўсход
Ў ценях на чорным абрыве.

І як заўсёды, пад звон асакі
Дзень усміхнецца на рэчцы —
Ў чорных чаўнах адплывуць рыбакі
К дальнім кастрам
Абагрэцца.

* ✲ *

Ніяк за імі не паспець —
Такія дні ў натоўпе гончым.
Ужо сады губляюць медзь,
І клёны раздаюць чырвонцы.

Здаецца, позняя пара,
Сяджу атулены ў поцем,
А за акном гарыць зара
Агнём рабінавым на плоце.

І нездарма вароны дзесь
У сад зляцеліся на сходку:
Між дрэў паволі нечы цень
Блукае восеньскай паходкай.

І, можа б, так было дармо,
Каб я не жыў у гэтай хаце,
Дзе ходзіць вецер між дамоў
У адвячоркавым халаце.

Але ці згодзіш на адно
Усё, што стане па-за намі...
Стучыцца восень у акно
Заледзянелымі рукамі.

І я, аддаўшы ноч пяру,
Чакаю нечаканай стрэчы,
Каб заўтра ў гэткаю ж пару
Камусьці горача пярэчыць.

А покуль думы цягнуць нас,
А покуль з рыфмаю няўвязка —
Нясе ля весніц жоўты вяз
Гадоў замуленую вязку.

Але я знаю, хопіць сіл,
Мяне вядзе мая стараннасць.
. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .
Вароны каркаюць з асін...
Напэўна, ранак!

## БГКТ

### БЕЛЬСКІ АДДЗЕЛ У 1968 Г.

Бельскі аддзел налічвае 48 гурткоў, у якіх ёсць 1646 членаў (даныя на 31.XII.68 г.). Членскіх складчын аплачана на суму 3670 зл. Кожную пятніцу па радыёвузлу ў Бельску чыталіся гутаркі на беларускай мове на розныя тэмы.

Харавы калектыў аддзела ў мінулым годзе даў 9 выступленняў, эстрада ГП «Лявоніха» ў Бельскім павеце дала 38 канцэртаў, а кінаперасоўкай ГП высветлена 18 савецкіх фільмаў.

З нагоды 50 гадавіны Савецкай Арміі было прачытана 18 дакладаў і арганізавана 12 вечарын, а з нагоды 25 гадавіны Войска Польскага — 24 даклады і 22 вечарыны. У сувязі з 51 гадавінай Кастрычніцкай рэвалюцыі было арганізавана 5 акадэмій, 12 вечарын і 17 гутарак, а ў сувязі з 50-ай гадавінай КПП і 20-годдзем ПАРП — 26 дакладаў, арганізавана 12 сустрэч з дзеячамі рабочага руху і 8 вечарын, а таксама фестын у Вольцы Выганоўскай. Перад V з'ездам ПАРП і пасля з'езда ў гуртках БГКТ адбылося 46 сходаў, на якіх абмяркоўваліся тэзісы на з'езд і пастановы з'езда. Падчас Дзён асветы, кніжкі і прэсы супольна з бібліятэкамі было арганізавана 48 кніжных выставак і 96 фотавыставак з жыцця СССР і БССР. Аўтарскіх спатканняў з Алесем Барскім адбылося 2, а з Віктарам Шведам — 8. У мінулым годзе на Бельшчыне было 26 аматарскіх калектываў з беларускім рэпертуарам, якія далі ў суме 136 выступленняў.

Традыцыйна ўжо аддзел арганізуе навагоднія ёлкі для дзяцей і акадэміі з нагоды Дня жанчын. Праўленне аддзела і яго прэзідыум амаль рэгулярна праводзілі пасяджэнні, сходы, нарады і канферэнцыі.

### ГАРАДОЦКІ АДДЗЕЛ

Гарадоцкі аддзел налічвае 9 гурткоў Беларускага таварыства, у якіх ёсць 172 члены. (Даныя на 31.XII.68 г.). У Меляшках і Страшаве існуюць драмгурткі, а ў Гарадку — 35-асабовы харавы калектыў. Аддзел арганізаваў дзве нарады са старшынямі гурткоў БГКТ, 5 пасяджэнняў праўлення аддзела і дзве канферэнцыі, 20 фотавыставак з жыцця СССР і БССР, 2 спатканні з былымі ўдзельнікамі Кастрычніцкай рэвалюцыі, 2 «Згадуй-згадулі» на тэмы «Што ведаю аб Савецкім Саюзе» і «25-ая гадавіна Войска Польскага». Па радыёвузлу ў Гарадку прачытана 10 гутарак на розныя тэмы. Аддзел пераказаў на пабудову этнаграфічнага беларускага музея 1600 зл. і сабраў шмат экспанатаў для яго. Навязаў ён супрацоўніцтва з усімі існуючымі ў Гарадку арганізацыямі і ўстановамі.

### МІХАЛОЎСКІ АДДЗЕЛ

На дзень 31.XII.1968 г. Міхалоўскі аддзел налічваў 111 членаў аб'яднаных у 11 гуртках Беларускага таварыства. У гэтых гуртках было арганізавана 12 гутарак на сельскагаспадарчыя тэмы, 10 дакладаў з нагоды 50-ай гадавіны КПП. Гэтай даце быў прысвечаны таксама фестын у Рыбаках. Аддзел арганізаваў 12 фотавыставак з жыцця БССР, 10 аўтарскіх сустрэч з паэтамі Алесем Барскім і Віктарам Шведам. Высветлена было 18 фільмаў кінаперасоўкай ГП, а эстрада «Лявоніха» дала 13 канцэртаў. У Круглым Ляску пры пачатковай школе арганізаваны асветны курс для дарослых. Аддзел на будову беларускага этнаграфічнага музея пераказаў 555 зл. Праўленне аддзела правяло дзве нарады. (мх)



**Калектыў мастацкай самадзейнасці Рэспубліканскага дома культуры прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі ў Мінску. (Да «50 год БССР», стар. 5).**
**Фота В. Казлова.**

## НАСУСТРАЧ VI З'ЕЗДУ БГКТ

Наша Таварыства шмат увагі прысвячае мастацкаму аматарскаму руху. У сувязі з набліжаючымся VI з'ездам БГКТ хочам і мы выказаць сваю думку (палічыўшы яе выключна як голас у дыскусіі) на тэму мастацкай самадзейнасці.

У апошні час беларускі аматарскі рух выражаецца пераважна ў форме драматычных гурткоў. (Нярэдка гэтыя гурткі на вёсках атоесамліваюцца з гурткамі Беларускага таварыства).

## ЧАМУ ТОЛЬКІ ДРАМГУРТКІ?

Драматычныя гурткі самі па сабе — справа добрая. Але давайце аглянемся на **нашыя** драмгурткі. Што яны ставяць? Які рэпертуар маюць у сваім карыстанні?

Надрукавана для іх было нямала. Былі кніжныя выданні, выдаваліся спецыяльныя дадаткі да «Нівы», а яшчэ больш было надрукавана на шклографе (повеляч). Але што гэта за п'есы?

Вось некалькі характэрных загалоўкаў: «Мікітаў лапаць», «Боты», «Пінская шляхта», «Пярэстая красуля» і падобныя. Гэтыя п'есы ў пераважаючай большасці пісаліся ў гады маладосці нашых бабуль, калі вясковы свет быў падзелены на шляхту і парабкаў, а ў п'есах высмейвалася дурасць багатых шляхціцаў і ўзводзілася ў ранг гераізму хітрасць і дасціпнасць парабкаў.

Што супольнага, апрача гісторыі, мае сёння наша моладзь з такімі п'есамі? Мы нічога не маем супраць аўтараў гэтых п'ес. Яны зрабілі добрую справу ў свой час. Але ці рэпертуарная рэдакцыя ГП (калі такая існуе) не можа знайсці больш сучаснай тэматыкі?

Мы добра разумеем клопаты, з якімі напэўна сустракалася рэпертуарная рэдакцыя ў падборцы адпаведных п'ес. Вядомая рэч, што п'есы савецкіх беларускіх драматургаў на вясковыя тэмы абапіраюцца на калгасным жыцці, а значыць, у нашых умовах яны не могуць быць падставай рэпертуару.

А нашы драмгурткі — амаль усе вясковыя, якія складаюцца з вясковых артыстаў і выступаюць для вясковага гледача. Нашым людзям патрэбны п'есы на сучасную тэму аб вясковым жыцці.

Добра ведаючы гэтыя патрэбы, Галоўнае праўленне некалькі разоў аб'яўляла конкурсы на найлепшыя п'есы. Але чаканых вынікаў гэта не дало. Паявіліся дзве-тры даволі пасрэдныя п'есы, як «Гарадскія госці» ці «Конская кніжка», і на гэтым скончылася.

Дык чаму ж мы так моцна трымаемся іменна гэтай, амаль выключна гэ-

Працяг на стар. 4

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі



## СВЕТ

### БЕРЛІНСКАЯ ПРАВАКАЦЫЯ

Як і папярэднія, мінулы тыдзень прынёс шмат новых падзей. Адной з найважнейшых з'яўляецца справа склікання бонскага парламента, які ў заходнім Берліне мае выбраць новага прэзідэнта ФРГ.

Справа можа не была б вартая, каб яе аднатоўваць, але трэба выясніць, што заходні Берлін ніколі не з'яўляўся часткай тэрыторыі Федэратыўнай Рэспублікі Германіі. Заходні Берлін — гэта самастойная адміністрацыйная адзінка, якая астаецца пад кантролем вялікіх дзяржаў удзельніц былой антыгітлераўскай кааліцыі. Апрача таго заходні Берлін знаходзіцца на тэрыторыі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Кожная спроба, каб змяніць існуючую сітуацыю, адначасова з'яўляецца спробай рэвізіі пасляваеннага парадку ў Еўропе. Аднак халоднаваенным сілам у ФРГ залежала і залежыць, каб выклікаць напружанне і завастрыць міжнародную сітуацыю.

Заява польскага ўрада сцвярджае між іншым: «**Польшча супольна са сваімі саюзнікамі будзе рашуча супраціўляцца ўсялякім спробам накіраваным на змену існуючага парадку, а такім чынам і супраць спробам выкарыстоўвання адасобленай палітычнай адзінкі, якой з'яўляецца заходні Берлін, да рэалізацыі рэвізіяністычных мэт палітыкі ўрада ФРГ**».

### НЕПАСЛУШНАЕ ПЕРУ

Адна з краін Лацінскай Амерыкі, Перу, збунтавалася. Урад Перу адказаўся ад паслухмянасці Злучаным Штатам Амерыкі. Адной з праяваў гэтай непаслухмянасці была справа нацыяналізацыі амерыканскай нафтовай суполкі. Урад Перу дамагаецца ад суполкі 700 мільёнаў долараў за нелегальную эксплуатацыю перуанскай нафты.

### САВЕЦКІ ТУРЫЗМ

Больш чым 1.700 тысяч інтурыстаў адпачывала ў мінулым годзе ў курортах і цэнтрах адпачынку Савецкага Саюза. Больш чым 1,5 мільёна савецкіх грамадзян падарожнічала ў тым часе па-за межамі СССР.

Паколькі ў 1956 годзе толькі 8 савецкіх гарадоў магло прыймаць замежных турыстаў, забяспечваючы ім адпаведныя ўмовы, дык зараз лічба іх павялічылася да 100. Толькі «Інтурысту» прыбудзе ў гэтым годзе 39 новых гасцініц. У Маскве закончыцца пабудова новай гасцініцы на 1200 месц.

### АЗІЯЦКІ ГРЫП

Сёлеташняя эпідэмія азіяцкага грыпу ў ЗША сталася прычынаю смерці 5 270 асоб у 122 гарадах.

### МОЛАДЗЬ СВЕТУ

Дадзеныя ААН гавораць, што 55 працэнтаў насельніцтва свету складае моладзь. Гэта абазначае, што 1.757.600.000 насельніцтва не закончыла 25 год. З гэтага ліку 500 мільёнаў гэта людзі ва ўзросце ад 12 па 25 год.

АК



## БССР

### ЗЛЁТ

Рэспубліканскі злёт маладых механізатараў адбыўся ў Мінску. У рабоце злёту прынялі ўдзел першы сакратар ЦК КП Беларусі П. Машэраў, Старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Кісялёў, сакратары ЦК КПБ У. Міцкевіч і А. Смірноў, кіраўнікі беларускіх міністэрстваў і ведамстваў.

З дакладам аб удзеле маладых механізатараў у барацьбе за павышэнне культуры земляробства выступіў першы сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі Г. Жабіцкі.

Удзельнікі злёту наведалі выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі Беларускай ССР і мемарыяльны комплекс Хатынь, трактарны і аўтамабілевы заводы, Заходнюю машынавыпрабавальную станцыю, сустрэліся з кіраўнікамі і спецыялістамі міністэрстваў і ведамстваў.

### ВЫПРАБАВАННІ

Выпрабаванні магутнага самазвала «БелАЗ — 549» пачаліся на Беларускім аўтамабілевым заводзе. Вышыня машыны чатыры з паловай метраў, шырыня — амаль пяць, а даўжыня — каля дзесяці метраў. Вага больш 50 тон, можа везці 75 тон грузу з хуткасцю да 60 кіламетраў у гадзіну.

### УЗНАГАРОДЫ

За шматгадовую актыўную работу ў геолагаразведцы, вялікі ўклад унесены ў адкрыццё месцанараджэнняў карысных выкапняў на тэрыторыі Беларусі, і ў сувязі з Пяцідзесяцігоддзем Беларускай ССР і Камуністычнай партыі Беларусі, дакументы заслужанага геолагаразведчыка БССР атрымалі: начальнік Упраўлення геалогіі пры Савеце Міністраў БССР П. Леановіч, намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута геалагічных навук Міністэрства геалогіі Саюза ССР А. Аўксенцьеў, начальнік геалагічнага аддзела Упраўлення геалогіі пры Савеце Міністраў Беларускай ССР В. Тарбееў.

### КРЫЛОВА

Грамадскасць Беларусі шырока адзначае 200-годдзе з дня нараджэння класіка рускай літаратуры І. А. Крылова. У памяшканні Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны гэтай даце. Удзельнічалі ў ім — сакратар ЦК КП Беларусі С. Пілатовіч, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Р. Кісялёў, першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Максім Танк, народны пісьменнік БССР Кандрат Крапіза, міністр культуры БССР М. Мінковіч і іншыя асабістасці.

### «БЕЛАРУСКАЯ»...

У Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя Леніна экспануецца выстаўка «Беларуская мастацкая літаратура на мовах народаў Саюза ССР і замежных мовах».

Асобнае месца на выстаўцы занялі пераклады ў замежных краінах — на балгарскай, вянгерскай, польскай, нямецкай, мангольскай, карэйскай, чэшскай, англійскай, французскай і многіх іншых мовах.

(С.Я.)



## ПОЛЬШЧА

### СПРАВЫ ГАСПАДАРКІ І ІДЭАЛОГІІ

На Варшаўскай партыйнай канферэнцыі з прамоваю выступіў I сакратар Цэнтральнага Камітэта партыі Уладзіслаў Гамулка. Сканцэнтраваўся ён на гаспадарчых праблемах Варшавы і ўсяе краіны. Указаў на шэраг недахопаў у галіне інвестыцый, як, напрыклад, тое, што сярэдні цыкл інвестыцыйны для Варшавы прадоўжыўся з 4 да 6 гадоў. Галоўным заданнем у бліжэйшыя гады будзе канцэнтрацыя інвестыцыйных сродкаў, абмежаванне іх да найважнейшых. Прамоўца падкрэсліў, што залогам поспехаў у гаспадарцы з'яўляецца адзінства нашай партыі. Адзінства гэтае імкнуцца разбіць варожыя нам сілы.

«Супраць нашай партыі, — заявіў Ул. Гамулка, — вядзецца атака варожых радыёстанцый, якія распаўсюджваюць розныя бязглуздзіцы, асабліва персанальныя. Апошнім часам пайшла серыя такіх бязглуздзіц, між іншым, на тэму асобы сакратара ЦК тав. М. Мочара. Усё гэта наяўныя, высcаныя з бруднага пальца правакацыі агентурных радыёстанцый, пакліканых на тое, каб шырыць дыверсію. Трэба гэтыя інфармацыі ўвогуле адкідаць і не прывязваць да іх аніякага значэння».

### СПРАВА СТУДЭНТАЎ

У днях 10—12 лютага адбыўся ў Варшаве VII кангрэс Саюза польскіх студэнтаў (ЗСП). Ад імя Цэнтральнага Камітэта партыі з прамоваю выступіў Сакратар ЦК партыі Юзэф Тэйхма. Падкрэсліў ён вялікае значэнне выхаваўчых праблем у сучаснай сітуацыі заўзятай ідэалагічнай барацьбы рэакцыйных сіл з сіламі сацыялізма. Ю. Тэйхма ахарактарызаваў развіццё навукі і асветы ў нашай краіне за апошніх некалькі гадоў. Выдаткі на асвету з бюджэту дзяржавы ўзраслі ў гадах 1960—69 у два разы. Выдаткі на адно толькі вышэйшае школьніцтва ўзраслі з 2,5 мільярда злотых у 1960 годзе, да 6 мільярдаў злотых у 1969 годзе. Будуць яны ўзрастаць і ў далейшым. Сакратар ЦК паінфармаваў аб планаваных зменах у сістэме стыпендый, якія ідуць у напрамку іх павышэння.

### ЗАЯВА ЎРАДА

Урад Польскай Народнай Рэспублікі апублікаваў заяву, у якой сцвярджае, што праект выбару прэзідэнта ФРГ у заходнім Берліне з'яўляецца парушэннем асноўных пастаноў пачдамскага дагавору. Польшча не можа згадзіцца з фактам выкарыстоўвання ўрадам ФРГ заходняга Берліна ў яго халоднаваеннай палітыцы.

### V КАНГРЭС

У днях 15—17 лютага адбыўся ў Варшаве V Кангрэс Спулдзельчасці забеспячэння і збыту. Дэлегаты пасля заслухання справаздачы з датагачаснай дзейнасці і дыскусіі прынялі пастанову, якая акрэслівае напрамкі далейшай працы і пераслалі да I сакратара партыі Уладзіслава Гамулкі ліст, у якім запэўніваюць яго ў актыўным удзеле пры выкананні заданняў, якія ставіць перад спулдзельчасцю партыя.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### ПАВЯТОВЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

У другой палавіне лютага г.г. наладжана справаздачна-выбарчыя кампаніі ў павятовых арганізацыях ПАРП. Першая справаздачна-выбарчая павятовая партыйная канферэнцыя адбылася 14 лютага ў Галдапі. 15 лютага павятовыя канферэнцыі праходзілі: у Дуброве Беластоцкай, Лапах, Граеве, Сейнах, Замброве і ў Саколцы. 22 лютага сабяруцца на свае канферэнцыі дэлегаты з Аўгустоўскага, Беластоцкага, Бельскага, Ломжынскага, Манецкага, Сямяціцкага і Высокамазавецкага паветаў. У Гайнаўцы і ў іншых павятовых цэнтрах справаздачна-выбарчыя канферэнцыі прадбачваюцца на 26 лютага.

Гэтыя канферэнцыі з'яўляюцца важнай падзеяй у грамадскім і гаспадарчым жыцці паветаў. Апрача выбару новых партыйных павятовых улад, іх удзельнікі ўсебакова ацэньваюць дасягненні сваіх паветаў і вызначаюць напрамкі далейшага іх развіцця.

### НА САКОЛЬШЧЫНЕ

Лёс не надзяліў гаспадароў Сакольшчыны добрай зямлёй. V і VI клас дыцераспалосіца. А ўсё ж на працягу толькі двух апошніх год гаспадарлівасць сялян Сакольскага павета ўзрасла на столькі, што ў 1968 годзе сабралі яны амаль на 20 працэнтаў больш збожжа і на 13 працэнтаў больш сена, як у 1966 г. Аднак сакольская вёска ўсё яшчэ астаецца вёскай вялікіх кантрастаў. Для прыкладу: бываюць гаспадары, якія прымяняюць па звыш 100 кг. хімічна чыстага рэчыва штучных угнаенняў на 1 га, а бываюць і такія, якія задавольваюцца некалькімі толькі кілаграмамі, у адных раёнах пад адзін трактар прыпадае 240 гектараў, а ў іншых аж 640 гектараў.

Аб гэтых і іншых справах па-гаспадарску гаварылі ўдзельнікі павятовай справаздачна-выбарчай канферэнцыі, якая адбылася ў Саколцы 15 лютага г.г.

### НА ПАБУДОВУ ШКОЛ

Жыхары горада Беластока ў месяцы студзені г.г. склалі суму 834 тысяч зл., якая прызначаецца на грамадскі фонд пабудовы школ і інтэрнатаў. Найбольш грошай уплыло ад рабочых фабрык і працаўнікоў розных прадпрыемстваў.

### НА ВУЛІЦАХ

На вуліцах Беластока ў выніку сутычкі аўтамашын у студзені г.г. адна асоба была забіта, а 6 параненых.

### СУПРАЦОЎНІЦТВА

Ваяводскія праўленні Польскага Чырвонага Крыжа і Саюза спулдзельняў сялянскай самапомачы ў Беластоку падпісалі супольнае пагадненне аб супрацоўніцтве ў распаўсюджванні ведаў пра ахову здароўя ў вясковым асяроддзі.

### З ДЫМАМ

У мінулым годзе на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства здарылася аж 1144 пажары. Затраты ад іх перавысілі суму ў 52 мільёны злотых. Найбольш пацярпелі жыхары паветаў: Сямяціцкага, Кольненскага, Ломжынскага, Сувальскага і Граеўскага.

(вр)




**Niedziela 23.II.**

8.00 Program dnia. 8.05 TV Kurs Rolniczy: „Nawożenie a podniesienie urodzajności gleb lekkich". 8.40 „Przypominamy, radzimy". 8.45 PKF. 9.05 Popularne melodie gra Orkiestra Dęta Kopalni „Walenty-Wawel". 9.25 „Pamiętne dni" — film dok. radz. 11.00 Sprawozdanie sportowe. w przerwie ok. 11.45 — Dziennik TV. 12.45 „Przemiany". 13.15 „Na tropach zbrodni" („W starym kinie") cz. I. 14.10 Teatrzyk dla Przedszkolaków: A. Chodorowska — „Kacperek". 14.50 „Piórkiem i węglem". 15.15 „Le Corbousier" („Portrety"). 16.15 „Bitwa o Wał Pomorski" — film („Polacy na frontach II wojny światowej"). 16.35 „Wielka gra". 17.35 „Dwa tygodnie bez telewizji" („Ludzie i zdarzenia"). 17.50 Opolski przegląd piosenki studenckiej. 18.30 „Budujemy nowy dom" — felieton TV. 18.45 Kronika z Międzynarodowego Konkursu Skoków Narciarskich o Puchar Wysokich Tatr (Czechosłowacja). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wojna Trojańska" — film fab. wł. 21.50 Wiadomości sportowe. 22.00 „Puchowy śniegu tren" — kabaret „Dymek z papierosa".

**Poniedziałek, 24.II.**

15.25 Program dnia. 15.30 i 22.45 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.30 „Echo Stadionu" — magazyn sportowy. 17.55 „Migdałowa wyspa" — film TVP. 18.15 „Spacerkiem po kinach". 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: „Rzecz o teatrze" wg. powieści J. W. Goethe'go „Lata nauki Wilhelma Meistra". ok. 21.30 „Zmiany warty" — program dokument. 22.00 „Profile kultury". 22.20 Dziennik.

**Wtorek, 25.II.**

9.30 „Nie zapomnij — stacja Ługowaja" — film fab. radz. 10.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski: L. Kruczkowski „Niemcy". 12.25 Przerwa. 12.45 i 14.55 Przysposobienie Rolnicze: „Zakładanie inspektów i produkcja rozsady". 13.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 22.50 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 „Mała pantera" — film rum. 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Śpiewnik domowy" St. Moniuszki. 20.40 „Nie zapomnij — stacja Ługowaja" — film fab. radz. 22.00 „Kontakty". 22.30 Dziennik.

**Środa, 26.II.**

9.20 „Biała karawana" — film fab. radz. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Chemia: „Wapienie". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie: „Sąd postanawia". 12.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 Matematyka w szkole: „Translacje i obroty" cz. II. 15.30 i 22.55 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.05 i 23.30 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Latający Holender w Oslo". 17.20 Sprawozdanie z meczu rewanżowego w piłce nożnej o Puchar Miast Targowych „Ujpest" (Budapeszt) — „Legia" (Warszawa) (Budapeszt). 18.15 TV Kurier Warszawski. 18.30 Mistrzostwa Świata w biathlonie. Otwarcie Mistrzostw (Zakopane). 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Słuchamy i patrzymy" — IV koncert „Muzyka a wyobraźnia". 20.55 PKF. 21.05 „Światowid". 21.35 Dziennik. 21.50 Studio 63: „Boya igraszki kabaretowe".

**Czwartek, 27.II.**

10.00 „Wir" — film fab. węg. 11.20 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII i VIII) Język polski: „Telewizja". 12.25 Przerwa. 12.45 i 14.55 Mechanizacja Rolnictwa: „Zbiór i suszenie ziemniaków". 13.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 23.15 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.50 TV Kurier Lubelski. 18.10 „Tropy na śniegu" — rep. film. („O ochronie przyrody i łowiectwa"). 18.40 Mistrzostwa Świata w biathlonie. Bieg 15 km juniorów indywid. (Zakopane). 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.00 Wszechnica TV. „Wielcy znani i nieznani". 20.40 Teatr „Kobra". W. Fairhild: „Głos mordercy". 21.50 „Refleksje". 22.20 Dziennik.

**Piątek, 28.II.**

8.35 „Czas rozłąki" — film fab. radz. 10.00 Mistrzostwa świata w hokeju na lodzie. Mecz Polska — Rumunia (Lubljana). 12.15 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 „Wybieramy zawód". 15.30 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 „Kino Ptyś". 17.05 „Miś z okienka". 17.20 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 „Spotkanie z piosenką radziecką". 18.15 „Za kierownicą". 18.45 Sprawozdanie z Mistrzostw Świata w jeździe figurowej na lodzie w Colorado Springs. 19.25 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Czwarta zmiana". 20.35 Teatr TV. M. de Unamuno: „Mgła". 21.55 „10 minut recenzji". 22.05 Dziennik. 22.20 Sprawozdanie z Mistrzostw Świata w jeździe figurowej na lodzie oraz sprawozdanie z meczu hokejowego Polska — Rumunia o Mistrzostwo Świata w Lubljanie.

**Sobota, 1.III.**

10.25 „Szczęściarz Antoni" — film fab. pol. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Zoologia: „Płazy". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Geografia: „Lądy Południowej Półkuli". 13.30 Mistrzostwa Świata w jeździe figurowej na lodzie. 14.30 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.35 TV Kurs Rolniczy: „Intensywne nawożenia a odmiany pszenicy". 16.10 Program Tygodnia. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Pentany, propany, butany..." — X Turniej Szkół Zawodowych (Poznań i Warszawa). 17.45 Sprawozdanie z Mistrzostw Świata w biathlonie. 18.25 Program filmowy. 18.55 Sprawozdanie z Mistrzostw Świata w jeździe figurowej na lodzie. 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.25 „Pegaz". 21.05 „Ballada o żonierzu" — film fab. radz. (Kino Interesujących Filmów). 22.30 Dziennik i Wiadomości Sportowe. 22.50 „Wariacje na pięć kamer" („Tele-Variete").




**Piątek, 21 lutego**

8.00 Dziennik. 8.15 Program młodzieżowy, 8.45 „Ziemia ojców". Film fab. 10.15 „Cuda przyrody". 10.30 „Wynalazca". 14.15 Program dnia. 14.20 Dziennik. 14.30 Teatr „Dzwoneczek" (dla dzieci). 15.00 „Moskwa — Sofia". Program muzyczny. 16.00 „Czyn" Almanach TV. 16.30 „TV punkt agitacyjny. 16.50 „Panorama nowin". 17.20 „Droga ojców — bohaterów". 18.00 „Sztafeta nowin". 18.45 „Ekran zbiera przyjaciół". Koncert z Kijowa. 19.45 Ilf i Pietrow. „Jednopiętrowa Ameryka". Spektakl satyryczny. 20.45 „Kronika życia muzycznego republiki. Rok 1946". 21.20 „Tylko fakty".

**Sobota, 22 lutego**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 „Człowiek ziemi mojej". 8.50 „Wizyta przyjaźni". 11.00 „Zdrowie". 11.30 Film dokument. 12.00 Szkoła męstwa". Film fab. 13.35 „Twórcy". 16.00 „Szkatułka muzyczna. 16.20 „Gwiazda". 17.30 Dziennik. 17.45 „Klub wesołych — 69". 19.30 „Świat socjalizmu". 20.00 „Przy płomyku". 21.00 „Tylko fakty".

**Niedziela, 23 lutego**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 „Sala koncertowa „Orfeusz" (dla dzieci). 9.00 „Nauka zwyciężania". 10.00 „Na straży pokoju". 11.00 „Wiejski czas". 12.00 Dla żołnierzy. 12.40 „Czas". 13.00 Hokej. „Spartak" — CSKA. 15.15 TV barwna. 17.30 Koncert świąteczny. 18.40 „Nowiny dnia". 18.50 „Siedem dni". 19.40 „Kronika bombowca nurkującego". Film fab. 21.00 „Tydzień sportowy".

## З МЕТАДЫЧНАЙ ПАЛІЦЫ НАСТАЎНІКА

# УРОК-ТВОРЧАСЦЬ Я. КОЛАСА

Прапануем увазе настаўнікаў беларускай мовы метадычныя парады пры вывучэнні творчасці Якуба Коласа. Будзе тэта апрацоўка матэрыялу апублікаванага (ў «Народнай асвеце» — са студзеня 1969 года. Апрацоўваючы не падае, у якіх класах паасобныя творы вывучаюцца, а можа і вогуле некаторых няма, аднак мяркуе, што такога тыпу метадычны дапаможнік паможа настаўніку пры вывучэнні твораў іншых беларускіх аўтараў. І яшчэ адно — метадычны дапаможнік, аб якім пойдзе рэч, датычыць восьмага класа савецкай школы. Яго прыдатнасць у нашых умовах — гэта індывідуальны падыход настаўніка.

Калі прыступаеце да вывучэння творчасці данага пісьменніка, першы ўрок прысвячаем расказу — лекцыі пра жыццё і творчасць пісьменніка. У падручніках наогул выступаюць біяграфіі паасобных аўтараў, але настаўнік дапоўніць запамінальнымі, эмацыянальна-дзейснымі фактамі, звесткамі, дарэчы ўжытымі вытрымкамі з твораў пісьменніка. Зрабіць гэта настаўніку дапаможа біяграфічная літаратура пра Я. Коласа, напр. «Вялікі пясняр беларускага народа» С. Александровіча і інш. Зразумела, выкарыстоўваць гэткую літаратуру патрэбна разборліва з улікам падрыхтаванасці вучняў.

Біяграфію пісьменніка звычайна пачынаецца словамі: «Якуб Колас нарадзіўся...» А чаму б не пачаць яе вось гэтым бясконца кранальным, да слёз узрушлівым «Мой родны кут, як ты мне мілы...», не перайсці затым, калі размова зойдзе аб вытоках творчасці, да радкоў «Ад роднае зямлі, ад гоманаў бароў...»; не спаслацца на «Раніцы ў нядзельку», як доказ ведання пісьменнікам драбніц сялянскага побыту.

Мы гаворым вучням: «Якуб Колас бязмежна любіў Беларусь...» Правільна, але ў сэнсе ўздзеяння на старшакласніка неяк бяздоказна і, галоўнае, — звыкла. Ці не лепш гэтую любоў засведчыць такі эпізод. Сорак першы год. Ташкент. Жнівень. Я. Колас, ідучы па вуліцы з паэтэсай Э. Агняцвет, раптам паглядзеў на неба і з болем у голасе прамовіў: «Як бы мне хацелася ўбачыць цяпер хоць бы адну маленькую беларускую хмурынку...» («Жыццё для народа» М. Лужаніна стар. 127).

Нарэшце біяграфію пісьменніка заканчваем: « Памёр Якуб Колас 13 жніўня 1956 года». А можна закончыць і інакш: «Але дапісаць паэму «На шляхах волі» яму не было суджана. Лёс бязлітасна адлічваў дні, і паэт як бы прадчуваў блізкую ростань з гэтай зямлёй, з дарагімі яму людзьмі. Неяк на месяц да смерці ён сядзеў на лаўцы ў сваім садзе і на пытанне аднаго з пісьменнікаў аб здароўі самотна адказаў: «от сяджу і ў зямлю гляджу» (Там жа стар. 118). А за некалькі дзён да смерці ў пісьме адрасаваным М. Лужаніну і Я. Брылю паэт напісаў: «Бывайце, мае дарагія. Ваш Якуб Колас, які жыве апошнія дні». (Там жа стар. 119). Гэтым апошнім днём стаў для яго дзень 13 жніўня 1956 года...»

Гаворачы пра жыццё і творчасць Я. Купалы і Я. Коласа мы не абыйдзем маўчаннем такіх слоў як **«класік», «народны паэт», «рэвалюцыйна-дэмакратычная паэзія».** Наўрад ці нават вучань малодшых класаў сярэдняй школы сам разбярэцца, чаму, скажам, паэзія Ф. Багушэвіча дэмакратычная, а Я. Купалы і Я. Коласа — рэвалюцыйна-дэмакратычная. Напомніць, што «дэмакрат» — гэта той, хто паходзіць з дэмасу, з народа, і жыве гэтак жа; што «рэвалюцыянер» — гэта той, хто выступае за звяржэнне грамадскага ладу, заснаванага на прыватнай уласнасці, павінен настаўнік. І Ф. Багушэвіч, і Я. Купала, і Я. Колас пісалі аб народзе і для яго. Таму іх паэзія дэмакратычная. А рэвалюцыйная (у Я. Купалы і Я. Коласа) яна таму, што яны ў адрозненне ад Багушэвіча не толькі паказалі цяжкі лёс народа, але і клікалі яго на барацьбу. Падкажам таксама, што «класік» — узорны пісьменнік, а «народны» прызнаны ўсім народам за тое, што найлепш адлюстроўваў яго жыццё, выказаў яго думы і пачуцці.

Паспрабуйце весці ўрок на такім высокім узроўні дыхання, вельмі раім. У іншых адрэзках аб вывучэнні творчасці Я. Коласа мы змесцім метадычныя парады аб творах: «Пясняр», «Мужык», «Асадзі назад». Магчыма, што выдрукуем таксама парады адносна вывучэння «Новай зямлі». А. К.

## ЛЮДЗІ БГКТ

## СВЯТЛАНА ПЕШКА



**Святлана Пешка з Мілейчыц (Сямяціцкі павет) яшчэ ў пачатковай школе залічвалася да лепшых аматараў сцэнічнага слова. А калі ўжо вучылася яна ў беларускім ліцэі ў Бельску Падляшскім, без яе ўдзелу амаль ніколі не абыходзіліся мастацкія выступленні. Святлана ў 1964 годзе закончыла беларускі ліцэй і пачала працаваць у сваёй мясцовасці ў прэзідыуме грамадскай рады нарадовай. Заўсёды яна салідна выконвае свае службовыя абавязкі. Многа добрых слоў аб яе працы на пасадзе падатковага бухгалтара сказаў нам старшыня прэзідыума ГРН Іван Вішанка і сакратар грамадскага камітэта ПАРП Міхась Вішанка.**

**Святлана Пешка даволі многа часу прысвячае грамадскай дзейнасці. Яна і старшыня гуртка Саюза сялянскай моладзі і сакратар грамадскага праўлення гурткоў вясковых гаспадынь. А на такія функцыі выбіраюць людзей разумных, здольных арганізатараў. Яна таксама ў Беларускім таварыстве ў Мілейчыцах вельмі актыўны член. Менавіта таму Мілейчыцкі гурток БГКТ выбраў яе таксама сакратаром, а ўдзельнікі канферэнцыі БГКТ — членам праўлення аддзела. Вось гэтая маладая і прыгожая дзяўчына з'яўляецца яшчэ добрым артыстам аматарскага мясцовага калектыву. Яна заўсёды выконвае асноўныя ролі ў пастаноўках. І заўсёды з імі добра спраўляецца, заўсёды шчодрасць свайго таленту аддае людзям. А ўсім вядома, што моцная воля ў выхаваўчым працэсе мастацкай самадзейнасці аграмадная. Святлана Пешка выступае таксама салісткай і захапляе неаднойчы прысутных меладыйнасцю песень. Людзі кажуць, што самадзейнасць і песня — гэта душа народа. І ў Мілейчыцах усе ўспомненыя тры арганізацыі (гурток Беларускага таварыства, Саюз сялянскай моладзі і гурток вясковых гаспадынь) ганарацца сваімі таленавітымі аматарамі. (мх)**

## ЦІКАВЫЯ КНІЖКІ

### GDY BYLIŚMY LITERĄ „P"

Гісторыя мінулай вайны ўсё яшчэ дапаўняецца новымі дакументамі. Менавіта такімі дакументамі з'яўляюцца ўспаміны вывезеных на прымусовую работу ў III рэйх, якія выйшлі асобнай кніжкай (звыш 500 старонак), выдадзенай Людовым выдавецкім кааператывам у другой палавіне мінулага года. Як не дзіўна, але адзін з найбольш змрочных раздзелаў II сусветнай вайны — нявольніцкая праца мільёнаў польскіх і іншых рабочых, вывезеных на прымусовыя работы ў Нямеччыну — з'яўляецца найбольш забытым, найменш даследваным. Забываюць пра яго пісьменнікі і гісторыкі. Але ён жыве ў памяці тых, што былі сілай адарваны ад родных сем'яў і прымушаны працаваць на ворагаў. Гэта яны, былыя нявольнікі, звярнуліся ў рэдакцыю «Зялёнага Штандару» з прапановай аб'яўлення конкурсу на ўспаміны з прымусовых работ. Найцікавейшыя працы і знайшлі месца ў гэтай кніжцы. Незвычайная гэта літаратура. Уражвае сілай фактаў — аўтэнтычным жаданнем аўтараў расказаць яшчэ адну праўду аб вайне. Кніга ілюстравана здымкамі і іншымі дакументамі. У кніжцы змешчаны 22 успаміны (з 359, якія наплылі на конкурс), аўтары якіх паходзяць з розных раёнаў Польшчы. Беласточчыну прадстаўляе Мікалай Садоўскі з Паўлаў, Бельскага павета. Яго ўспаміны п.з. «Смерць сярод каменняў» робяць вялікае ўражанне і з'яўляюцца аднымі з найбольш сільных у кніжцы.

Калі ў вашай бібліятэцы ёсць гэта цікавая кніга, абавязкова прачытайце яе. (рл)





## КУЛЬТУРНЫ АГЛЯД

### ГАЙНАЎСКІЯ АГЛЯДЫ

У канцы студзеня ў Гайнаўскім Міжзакладовым доме культуры «Гурнік» адбыўся Павятовы агляд аматарскіх тэатральных гурткоў. На пачатку лютага ў тым жа «Гурніку» адбыўся падобны агляд эстрадных гурткоў. Абодва агляды мелі дыскусійна-навучальны характар і праводзіліся ў рамах падрыхтоўкі да Ваяводскага агляду калектываў нацыянальных меншасцей. Конкурсны агляд усіх калектываў адбудзецца ў Гайнаўскім павеце 9 сакавіка.

### ДАСЯГНЕННІ ТАВАРЫСТВА ПРЫЯЦЕЛЯЎ МАСТАЦТВА

Таварыства гэта арганізавала ў павятовых гарадах выстаўкі мастакоў, скульптараў, а таксама дзве выстаўкі вучняў Мастацкага тэхнікума ў Супраслі. Выстаўкі папярэджваліся гутаркамі аб мастацтве.

Таварыства выступіла з ініцыятывай арганізавання І Ваяводскага агляду мастакоў-аматараў «Мастацкія канфрантацыі 69». У рамах канфрантацый будуць арганізаваны павятовыя выстаўкі, а потым ваяводская, спалучана з папулярна-навуковай сесіяй на тэму мастацтва.

У 1968 годзе Таварыства было сааўтарам такіх мерапрыемстваў, як: выстаўка аматарскай фатаграфіі, І агляд аматарскіх фільмаў, фатаграфічны конкурс «Беласточчына ў 25-годдзі ПНР».

Таварыствам былі арганізаваны такія выстаўкі як: «В. І. Ленін у савецкай графіцы» і «Масква ў графіцы». Агулам у мерапрыемствах Таварыства ў 1968 годзе прыняло ўдзел каля 85 тысяч асоб.

### ЖАНОЧЫ КЛУБ

Вельмі жывую дзейнасць развівае Клуб жанчыны, які працуе пры Ваяводскай камісіі прафсаюзаў у Беластоку. Апошняе спатканне ў Клубе жанчыны было прысвечана дзіцяці і яго выхаванню. (вл)

### ДРАМА ПРА СУЧАСНАЕ КАХАННЕ

«Кошка на рэльсах» І. Таполі — гэта найбольш цікавы спектакль гэтага сезона ў тэатры Вянгеркі ў Беластоку, пастаўлены на малой сцэне. Зрабіла яго беластоцкая сцэна дасканала. Заслуга ў тым і маладога рэжысёра **Міраслава Ваўжыняка** і добрай акцёрскай працы **Гражыны Юхневіч і Генрыка Длужынскага.**

Жывуць з сабой маладыя некалькі год, ды здарылася — вымушаны затрымацца на малой станцыі. Чаканне на поезд — і родзяцца прызнанні аб узаемных адносінах. Аказваецца, іх каханне было пачуццём павярхоўным, без глыбейшай псіхічнай сувязі. Трэба прыняць гэта. Каханне, якое лёгка родзіцца, не прыносіць шчасця. (Г.П.)

**На здымку: сцэна з «Кошкі». Генрык Длужынскі (Вацэк) і Гражына Юхневіч (Эва).**



## ◆ НАША ПОШТА ◆

**Ад Надзеі Казлоўскай з Беластока** атрымаў я такое пісьмо. «Мне 18 год. Кончыла я толькі пачатковую школу. Жыву і працую ў Беластоку. Вечарам хаджу на вечаровыя курсы краўчых. Але незадоўга мой курс кончыцца. І вось хацела б вельмі запісацца да якога-небудзь беларускага гуртка. Люблю вельмі беларускую мову і люблю спяваць беларускія і рускія песні. Прашу Цябе, дарагая «Ніва», каб Ты мне параіла або падала адрас, дзе можна звярнуцца. За параду буду вельмі ўдзячна».

АДКАЗ. Вельмі разумна паступаеш, што наперад плануеш, што будзеш рабіць у будучыні, як запоўніць вольны час. Яшчэ больш цешыць, што хочаш пашыраць веды аб роднай мове і песні. Мая рада будзе кароткая: неабходна мусіш запісацца да Гарадскога аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку, вул. Варшаўская № 11 (насупраць пошты). Пры аддзеле БГКТ ёсць клуб, дзе збіраюцца ўсе, хто любіць сваю родную мову, хоча пачуць аб гісторыі свайго народа, любіць спяваць беларускія і рускія песні, як і ты. У клубе ёсць вялікая бібліятэка пераважна з беларускім і рускім кнігазборам. У вялікай зале ГП БГКТ дэманструюцца ў арыгінале савецкія фільмы. Часта тут арганізуюцца танцавальныя вечарыны. Вельмі раю і заахвочваю. Мяркую, што калі чаго-небудзь пакуль што і няма ў клубе БГКТ у Беластоку, дык сваёй актыўнасцю прычынішся, каб сарганізаваць. Аб тваіх, і можа нават тваіх сябровак, прапановах адносна працы аддзела і арганізаваных ім мерапрыемстваў паведамі нас. Разам напэўна зможам нешта зваяваць. Пішы адважна, што табе не падабаецца і што і як хацела б бачыць у працы клуба на Варшаўскай. Клуб адкрыты кожны дзень, апрача панядзелкаў, ад гадзіны $17^{00}$ да $22^{00}$.

**Сяргей Грыгарук з Курашава.** Інфармую цябе і ўсіх зацікаўленых, што «Ніва» з прычын ад яе незалежных не займаецца высылкай песень ні ў кніжках, ні на паасобных лістках. Вядзем толькі куток «Песні па заяўках», і толькі такім чынам выконваем просьбы чытачоў.

**Дарадчык**

# 50 ГОД БССР

## Культура

Пасняхова развіваецца беларуская культура. Беларускае слова гучыць не толькі на роднай зямлі, але і далёка за яе межамі. Мільённымі тыражамі выдадзены творы заснавальнікаў беларускай савецкай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Іх творы пераведзены на рускую, украінскую і іншыя мовы народаў СССР, а таксама замежных краін. Чытач добра ведае творы беларускіх пісьменнікаў П. Броўкі, П. Глебкі, А. Куляшова, К. Крапівы, М. Танка, І. Шамякіна, П. Пестрака, І. Мележа, Я. Брыля і інш. У Саюзе пісьменнікаў БССР налічваецца больш як 240 празаікаў, паэтаў, драматургаў і крытыкаў.

За сто дарэвалюцыйных гадоў у Беларусі выйшла 2,5 тысячы кніг. У 1966 годзе выдавецтвы рэспублікі выпусцілі каля 2 тысяч назваў кніг і брашур агульным тыражом звыш 21 мільёна экземпляраў.

У БССР выходзяць 154 газеты і 51 часопіс ці выданне такога тыпу разавым тыражом каля чатырох мільёнаў экземпляраў. А ўсяго на кожную тысячу чалавек насельніцтва распаўсюджваецца 1173 экземпляры газет і часопісаў. Да гэтага трэба дадаць, што беларускае радыё вяшчае штодня 18 гадзін па трох праграмах, а тэлебачанне вядзе свае перадачы 15 гадзін у суткі па дзвюх праграмах. У гарадской мясцовасці кожная трэцяя, а ў сельскай кожная трынаццатая сям'я маюць тэлевізар.

Росквіту дасягнула таксама мастацтва. У рэспубліцы — 11 тэатраў, у тым ліку 7 драматычных, тэатр оперы і балета, юнага гледача, музычнай камедыі, лялечны, а таксама кансерваторыя, філармонія. У шматлікіх канцэртных залах гучыць музыка беларускіх кампазітараў М. Чуркіна, А. Аладава, Я. Цікоцкага, Д. Камінскага, А. Багатырова, Ул. Алоўнікава, Ю. Семянякі, Г. Вагнера і інш.

Створана таксама дзве кінастудыі. Шырокае развіццё атрымалі выяўленчае мастацтва, скульптура. У беларускіх гарадах і вёсках плённа працуе звыш 22,5 тысячы самадзейных мастацкіх калектываў, у якіх аб'яднана звыш 350 тысяч аматараў. Асвету і культуру ў шырокія народныя масы штодня нясуць звыш 30 тысяч клубаў, бібліятэк, кінаўстановак.

# Самакіраванне ў Бельску

У многіх гарадах пакліканы да жыцця раённыя і вулічныя камітэты, а ў некаторых зноў толькі блокавыя камітэты. У тым ліку і ў Бельску блокавыя камітэты ахопліваюць сваёй дзейнасцю паасобныя вуліцы. Гэтыя камітэты з'яўляюцца своеасаблівай, усеагульнай арганізацыяй жыхароў горада ў даным раёне. Гэтыя грамадскія органы з'яўляюцца ўжо выпрабаванай арганізацыйнай формай сувязі насельніцтва данага раёна з гарадской радай нарадовай, з яе камісіямі і раднымі. Дзякуючы такой сувязі прапановы, скаргі і крытычныя заўвагі людзей арганізаваным чынам даходзяць да органаў улады, а гэта ў сваю чаргу прычыняецца да жывейшага іх рэагавання на патрэбы людзей працы.

Блокавыя камітэты маюць устаноўлены нормы кантролю адміністрацыі жыллёвых будынкаў, рамонтна-будаўляных прадпрыемстваў, а таксама ў пэўнай ступені функцыяніраванне мясцовай сеткі гандлю, паслуг, службы здароўя, грамадскай апекі над дзяцьмі, моладдзю і старэйшымі.

Заданні блокавых камітэтаў у галіне рамонтнай гаспадаркі ў Бельску пачынаюцца ад удзелу іх прадстаўнікоў у штогадовых аглядах тэхнічнага стану адміністрацыйных будынкаў. Прымаюць яны таксама ўдзел у прыёме рамонтных прац жыллёвых будынкаў і камунальных абсталяванняў. Найбольш актыўнасці праяўляюць у гэтай галіне такія старшыні камітэтаў як: Браніслаў Маркевіч і Ежы Гаўрылюк.

Блокавыя камітэты дапамагаюць рэалізаваць гаспадарчыя заданні гарадской рады нарадовай. Довадам гэтага могуць быць арганізаваныя імі грамадскія чыны. Па ініцыятыве блокавых камітэтаў у раёне Студзіводы была адрамантавана святліца і вуліца. А дзякуючы інспірацыі і арганізатарскай дзейнасці мясцовых блокавых камітэтаў былі пабудаваныя новыя адрэзкі вуліц 22 Ліпеня, Траўгута і Дзяржынскага.

Вартасць усіх такіх чынаў у Бельску акрэсліваецца сумай блізка аднаго мільёна зл. Камітэты Фронту адзінства народа супольна з блокавымі камітэтамі паклікаюць да жыцця свайго роду суды, якія называюцца грамадскія паяднаўчыя камісіі.

У Бельску Падляшскім адна гарадская грамадская паяднаўчая камісія. Яна перш за ўсё цікавіцца сужыццём людзей горада. Часта бывае так, што паміж суседзямі даходзіць да непаразуменняў. Умяшанне грамадскай паяднаўчай камісіі ў рознага роду непаразуменнях дзейнічае прафілактычна і часта не дапускае да распальвання далейшай нязгоды. Гэтае ўмяшанне ў многіх выпадках мае перавагу над судовымі працэсамі, таму што не выклікае такой варожасці, якая суправаджаецца судовым працэсам і карна-адміністрацыйным разборам.

Бельская грамадская камісія паяднання разгледзела 17 спраў, і амаль усе закончыліся пагадненнем і ўступкамі, кампрамісам паміж абодвума бакамі.

Члены блокавых камітэтаў выконваюць таксама гуманную і ганаровую функцыю грамадскіх апекуноў. Яны арганізуюць дапамогу старым людзям, людзям, якія пакрыўджаны лёсам.

Кожны год арганізуецца збор дараў Польскаму камітэту грамадскай дапамогі. У зборах гэтых у Бельску актыўна ўдзельнічаюць: Зінаіда Саньчук і Павел Панасюк.

У Бельску не існуюць вулічныя камітэты, камітэты моладзі, дзіцячыя і падвурковыя.

Апрача добрых бакоў адносна самакіравання ў Бельску ёсць і шмат недахопаў. Блокавыя камітэты ў Бельску маюць вялікія цяжкасці са скліканнем сходаў. Некаторыя члены блокавых камітэтаў не вельмі ахвотна прыступаюць да працы. Адчуваецца малы аўтарытэт гэтай грамадскай арганізацыі самакіравання. А ствараць гэты аўтарытэт павінны дапамагаць партыйныя групы, якія зараз там паклікаюцца, а таксама гарадская рада нарадовая.

**М. Хмялеўскі**

# ШТО „ГАВОРЫЦЬ“ ВОПЫТ ПРОДАЖУ

Продаж мінеральных угнаенняў на Беласточчыне мае сваю арыгінальную гісторыю. Яшчэ не так даўно амаль зусім невядомыя яны нашым гаспадарам залежваліся ў складах, выклікаючы часта здзіўленне, пашто ўвогуле існуюць нейкія фабрыкі гэтага «парашку», г.з. мінеральных угнаенняў. Перакананасць у прыдатнасці «парашку» прыйшла з часам, хаця вельмі хутка. У нашых вёсках не было ніякіх традыцый ужывання мінеральных угнаенняў у сельскай гаспадарцы.

Зараз рост папулярнасці мінеральных угнаенняў настолькі вялікі, што беластоцкі вясковы гандаль займае першае месца ў цэлай краіне па павелічэнню продажу іх. Напрыклад, у 1968 годзе продаж мінеральных угнаенняў пазялічыўся на 61 працэнтаў у параўнанні да папярэдняга года. Гэта ж надта многа. Склалася сітуацыя, што пачынае не хапаць іх у складах. Пацяшаючая з'ява, калі глядзець на яе з мінулых пяці-дзесяці гадоў, але адначасова і трэба смуціцца, бо ж справа ў далейшых і штораз лепшых перспектывах інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі, без якой Беласточчына — не Беласточчына.

Звычайна, мінеральных угнаенняў ёсць у дастатковай колькасці і на выбар у зімні час. Многія гаспадары не заўважаюць таго і з'яўляюцца ў складах на весну, «на разбор шапак», калі застаюцца адны пустыя сцены. Гэта заўвага асабліва датычыць добрых гаспадароў, якія даюць шмат сельскагаспадарчай прадукцыі. Трэба ведаць: ёсць цяжкасці з купляй патрэбных угнаенняў і ў патрэбных колькасцях, але можна ўнікаць тых цяжкасцей, робячы закупкі ўзіму, на запас. Такі метад пакуль што неабходны.

Вясковы гандаль робіць усё, каб не дапусціць да веснавога галаполля ў складах, якое бывае рэзультатам таго, што транспарт проста не паспявае падвозіць патрэбныя колькасці мінеральных угнаенняў. Гаспадары чакаюць з фурманкамі ў доўгіх чэргах, часта ад'язджаюць з нічым. Узнікае шкодны міф «знаёмстваў» і «запойвання, каго трэба».

Адбываюцца запісы гаспадароў, патрабуючых мінеральных угнаенняў. Запісы праводзяць сельскагаспадарчыя гурткі. Дзякуючы такім спіскам можна пазбегнуць непатрэбнай валакіты, гандаль дастаўляе за адным разам для ўсёй вёскі патрэбную колькасць мінеральных угнаенняў. Справа выгодная і гаспадарам, і гандлю.

Сказаў мне адзін дзеяч вясковага гандлю:

«Справа продажу мінеральных угнаенняў, даведзена да таго, што хопіць гаспадару толькі падпісацца на агульнавясковым заказе, робленым актывістамі. Потым, калі хто хоча ўзяць сам свае гнаі — даволі прыехаць у склад, загрузіць іх на фуру; не трэба нікуды хадзіць з ніякімі папяровымі справамі».

Чаму гаспадары не карыстаюць з такой выгоды? На гэта можна знайсці толькі адзін адказ: не прызвычаіліся яшчэ, не ўвайшло ім у кроў яшчэ. Арганізацыйныя прывычкі таксама паяўляюцца ў людзей з цягам часу, не адразу.

У сучасны момант беластоцкі ВЗГС «Сялянскай самапомачы» намераны ўвесці больш дасканалую форму, спосабы продажу мінеральных угнаенняў, з якімі штогод столькі валакіты. Менавіта прыдумана, так званую, «Кніжачку гаспадара» — нешта накшталт чэкавай кніжачкі, папулярнай у іншых галінах гаспадарчай дзейнасці. Дзякуючы такому новаўвядзенню гаспадар здолеў бы за адзін дзень, «за адным махам», (як сказалі б у Шудзялаве), закупіць усё патрэбнае яму ў паляводстве: мінеральныя ўгнаенні, хімікаты, купля канцэнтраваных кармоў, нават аплата за аграхімічныя паслугі. Добрая рэч, ды гэта яшчэ справа будучыні.

Зімовы перыяд трэба выкарыстаць дзеля запасаў на весну. Такая навука ад шматгадовага вопыту ў галіне продажу.

(ся)

— Дарма, — сказаў Ананьеў. — Трэба б таго абармота прымусіць.

Ён, як гэта часта рабіў, неяк раптам павярнуўся і, нібы забыўшы пра ўсіх, хутка пакрочыў па дарозе.

На хаду ўжо нас дагнаў Ванін, тулячы пад ватоўкай мокрую Пульку, якая адразу сцішылася там, вытыркнуўшы з-за пазухі маленькую чорную мордачку і дзве мокрыя лапкі. Узводны не паспеў яшчэ абазвацца, як наперадзе з ветраных прыцемак з'явіўся наш нампаліт лейтэнант Грыневіч. Захутаны ў даўгаватую для яго невялікага росту палатку, ён крыху прычакаў камандзіраў і запытаўся ціхманым, з хрыпатой голасам:

— Што там здарылася?

— Ды вунь дурань адзін Пульку ў ваду загнаў, — стрымана сказаў Ванін. Нампаліт страсянуў наліплы на плячах снег і пайшоў побач.

— А наогул — нашто вам сабака?

— Як гэта нашто? — не зразумеў Ванін.

— Каб хоць сабака, а то...

— А то шчанюк кароslівы... — скончыў за лейтэнанта Ананьеў.

— Вот іменна. На месцы камандзіра роты я б загадаў прыстрэліць, і ўсё.

— Хай жыве, — са змрочнай рашучасцю абвясціў Ананьеў. — Ці баішся: нас пераЖыве?

Перш чым адказаць, Грыневіч зноў памаўчаў.

— Нас гэта не датычыць. А вось брэша зусім недарэчы.

— Калі на піліпенкавых, дык дарэчы, — нязгодна падхапіў ротны. — Камандзір узвода не камандуе, дык хоць Пулька...

Я ішоў ззаду за ўсімі і згледзеў, як Піліпенка, варухнуўшы каскай, неяк крыўдліва насцярожыўся пад мокрай палаткай.

— Усэ вам Пылыпэнка! Што, я буду пнаты кожнага? Бачытэ, якая дарога! — сказаў старшына, і твар яго зморшчыўся амаль у пакутлівым выразе. Ананьеў рэзка азірнуўся.

— Пры чым тут дарога! Камандзір размазня!

— Камандзір...

— Ага, камандзір! Бо камандаваць трэба! — выпаліў ротны.

Усе непрыемна змоўклі: як заўжды ў такіх выпадках, злосць старшага лейтэнанта чапляла не толькі вінаватага, але і тых, хто быў побач. Здавалася, пасля Піліпенкі Ананьеў возьмецца за наступнага, і кожны адчуваў сябе гэтым наступным. Па схіле рота выходзіла на пагорак, вецер памацнеў; мокры снег з дробным даждком сек па плячах і касках. Мы хуткім крокам абміналі калону.



# ВАСІЛЬ БЫКАЎ

**ВАСІЛЬ БЫКАЎ нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 года ля Кубліч на Полаччыне ў сялянскай сям'і. Скончыў Кубліцкую сярэднюю школу, вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. У час вайны знаходзіўся ў Чырвонай Арміі, удзельнічаў у баях на II і III Украінскіх франтах. Быў два разы паранены. «Аднаго толькі ўласна перажытага хапіла б на многія кнігі, — успамінае Быкаў. — Вайна выдалася неверагодна цяжкай і крывавай». Гэту праўду аб вайне і сцвярджае Быкаў у сваіх творах. Гэты творчы падыход найбольш поўна выявіўся ў вядомай аповесці Быкава «Мёртвым не баліць», якую ў 1966 годзе надрукаваў «Новы мір». Сёння змяшчаем урывак з яго новай аповесці «Праклятая вышыня» (поўнасцю аповесць надрукавана ў 5 нумары «Маладосці» за 1968 год).**

**В. Быкаў жыве ў Гродна. На нашым здымку бачым яго на прагулцы на беразе Нёмана.**




# ЖЫЦЦЁ СЯРОД ЖЫВЁЛЫ

Гэта здарылася неўзабаве пасля заканчэння другой сусветнай вайны ў 1946 годзе. Англійскія салдаты, якія неслі патрульную службу ў Аравіі, аднойчы ўбачылі ў пустыні маленькі статак газелей, а сярод іх хлопчыка. Меркаванне, што ён пасвіць жывёлу, выклікала сумненні, бо гэта была не хатняя жывёла — патруль знаходзіўся ў месцах зусім дзікіх, аддаленых ад населеных пунктаў на многія дзесяткі кіламетраў.

Здзіўленыя салдаты накіравалі джып, спецыяльна прыстасаваны для працяглых пераездаў па пустыні, да дзіўнай групы. Пры набліжэнні аўтамашыны ўвесь статак на чале з «пастушком» кінуўся ўцякаць. Джып развіў скорасць да 70—80 кіламетраў у гадзіну. На здзіўленне салдат хлопчык імчаўся, як віхор, не адстаючы ад чацвераногіх прыгажунь пустыні.

Ратуючыся ад праследванняў, статак кідаўся з боку ў бок, робячы рэзкія павароты. Салдаты змучыліся, твары іх пакрыліся потам і пылам. І толькі пасля паўтарагадзіннай страшэннай гонкі хлопчык, загнаны амаль на смерць, упаў у пясок. Англічане акружылі яго і пачалі з цікаўнасцю разглядаць. Газелі, якія рассыпаліся ў розныя бакі, таксама спыніліся і здалёк назіралі за сваім «братам».

На Махамедзе, так назвалі хлопчыка англічане, не было ніякага адзення. Падэшвы яго ног сталі на столькі тоўстымі і цвёрдымі, што нагадвалі капыты. Дзякуючы гэтаму ён мог лёгка пераадольваць камяністыя прасторы пустыні. Махамеда звязалі і даставілі ў штаб. Ён не гаварыў і не разумеў таго, што гаварылі яму. Хлопчык еў толькі фінікі, карэнні раслін і розныя травы — гэта значыць тое, што газелі. Ён з задавальненнем піў малако з соскі, надзетай на бутэльку.

Англійскае ваеннае камандаванне зацікавілася хлопчыкам-газеллю. Вырашана было далучыць яго да цывілізацыі, а затым падрыхтаваць да ўдзелу ў Алімпійскіх гульнях, дзе ён, безумоўна, пабіў бы ўсе сусветныя рэкорды ў бегу. Аднак гэтым надзеям не суджана было збыцца. Страх перад людзьмі і туга па прывоплях пустыні зрабілі сваю справу. Махамед не пражыў у няволі і месяца. Разам са смерцю хлопчыка-газелі пайшла ў магілу і тайна аб яго паходжанні.

Да гэтага часу многа гаварылася пра дзяцей, якія жылі сярод ваўкоў. У Індыі і цяпер ледзь не ў кожным сяленні вам раскажуць гісторыю аб хлопчыках і дзяўчынках, «выхаваных» ваўкамі. Гэтыя легенды натхнілі Кіплінга, які напісаў свае вядомыя апавяданні пра Маўглі. Але гэта, так сказаць, справа даўно мінуўшых дзён. Да таго ж пісьменнік стварыў свой твор спасылаючыся не на факты і дакументы, а народныя легенды.

А вось факты нашых дзён. Як паведамляў мексіканскі часопіс «Сусесас», 20 красавіка 1967 года ў шпіталі Бальрампур у горадзе Лакнаў (Індыя) ва ўзросце 21 года памёр юнак па імю Раму. Пасля яго смерці ў шпіталі была праведзена прэс-канферэнцыя, на якой прысутнічалі журналісты, урачы, біёлагі і антраполагі. Імя юнака абышло амаль усе газеты свету. Чым жа Раму прыцягнуў да сябе такую пільную ўвагу?

Гісторыя яго сапраўды незвычайная. Пятнаццаць гадоў назад, калі яму было ўсяго сем гадоў, хлопчыка знайшлі ў кошыку на адной з чыгуначных станцый. Ён выў, рыкаў, неймаверна шпарка бегаў на карачках і хлябтаў ваду. Цела падкідыша было пакрыта мноствам шрамаў ад ваўчыных укусаў. Хлопчыка назвалі Раму — у гонар маладога акцёра, які іграў галоўную ролю ў кінафільме, знятым па апавяданнях Кіплінга аб Маўглі.

Спосабы вярнуць Раму ў чалавечае асяроддзе ўвянчаліся вельмі сціплымі поспехамі. Раму не разумеў ні слова, еў толькі сырое мяса, а ваду піў з кубка, што стаяў на падлозе. Удалося толькі прывучыць яго насіць кашулю. Адзіным праяўленнем «чалавечых» пачуццяў была радасць хлопчыка пры паяўленні медсястры.

У 1952 годзе на адным з астравоў на поўдні Японіі мясцовыя жыхары знайшлі дзвюх дзяўчынак пятнаццаці і семнаццаці гадоў, якія жылі з малпамі. Удалося ўстанавіць паходжанне «японскіх тарзаначак», як іх назвалі. Бацька дзяўчынак, селянін, памёр, калі ім было пяць і сем гадоў. Дзяцей пад сваё апякунства і абарону ўзяў статак малпаў. Як і іх «сёстры» па статку, «тарзаначкі» маглі імгненна ўзабрацца на вяршыню дрэва, спрытна скакалі з галінкі на галінку, елі дзікія плады, карэнні і насякомых. Злавіць іх удалося з вялікай цяжкасцю.

У мінулым годзе хлопчык-малпа быў злоўлены на поўначы Мазамбіка (партугальская калонія ў Афрыцы).

Затадкі дзяцей чалавека, якія выраслі ў акружэнні жывёлін, даўно цікавяць вучоных. Нядаўна выйшла ў свет кніга французскага вучонага Люсьена Мэсона пад характэрным загалоўкам «Дзікія дзеці: міф і сапраўднасць». У гэтай кнізе сабраны шматлікія легенды і гістарычныя дакументальныя матэрыялы пра дзяцей, якія выраслі сярод звяроў.




### Рагу з бараніны

Кавалкі бараніны пасыпце соллю, а па жаданню і перцам, абсмажце на скавярадзе з разагрэтым тлушчам. Пасыпце кавалкі бараніны пшанічнай мукой, пасмажце яшчэ 3—5 мінут, складзіце ў глыбокую каструлю, дадайце тамат-пюрэ, уліце 2—3 шклянкі гарачага булёну або вады і тушыце на слабым агні паўтары-дзве гадзіны (маладую бараніну трэба тушыць 40—50 мінут).

Моркву, пятрушку, рэпчатую цыбулю нарэжце на долькі і абсмажце з тлушчам да палавіны гатоўнасці. Асобна абсмажце нарэзаныя на долькі невялікія клубні сырой бульбы.

Калі бараніна будзе амаль гатова, дадайце абсмажаныя гародніну і бульбу, лаўровы ліст, перац гарошкам і працягвайце тушыць да гатоўнасці бульбы і гародніны.

Кавалкі мяса разам з гароднінай і соусам пакладзіце на талерку і пасыпце зяленівам пятрушкі або кропам.

На 500 грам бараніны — 2 морквіны, цыбуліна, корань пятрушкі, 5—6 бульбін, палавіна сталовай лыжкі пшанічнай мукі, 1—2 сталовыя лыжкі тамату-пюрэ, 2—3 сталовыя лыжкі сметанковага масла, 1—2 лаўровыя лісцікі, 6—8 гарошын перцу.




### ВАЛАСЫ

Абястлушчаныя пасля хімічнай плойкі валасы вельмі важна 1—2 разы на тыдзень змазваць якім-небудзь тлушчам (брыльянцінам, маслам) або любым алеем. Вазьміце 10—15 кропель алею на далонь, змачыце ў ім шчотку і прагладзьце пасмы валасоў.

Пасля хімічнай плойкі лепш за ўсё мыць валасы кіслым малаком. Робіцца гэта так. Валасы добра змазваюць кіслым малаком, завязваюць касынкай або ручніком і так застаюцца 15—20 хвілін. Пасля валасы старанна прамываюць некалькі разоў гарачай вадой. Кіслым малаком валасы пасля хімічнай плойкі можна мыць раз у 10 дзён, а то і часцей. Проста вадой рэкамендуецца мыць валасы з хімічнай плойкай не часцей, чым раз у 2—3 тыдні.

### Стары капялюш і бурка

Стары фетравы капялюш можна адназіць, пачысціўшы яго звычайнай сціркай для алоўкаў. Пасля таго, як старанна пачысціце сціркай, трэба пачысціць жорсткай шчоткай, і капялюш набудзе свежы выгляд.

Гэтак жа можна добра пачысціць фетравыя боты, буркі.

# РАКЕТНЫЯ ВОЙСКІ СССР

**Абароннай асновай СССР з'яўляюцца сёння стратэгічныя ракеты, якія практычна маюць неабмежаваны радыус дзеяння і адзначаюцца незвычайна высокай дакладнасцю. Рухавікі гэтых ракет маюць сілу 20 мільёнаў механічных коней(!). Адлегласць 12 тысяч кіламетраў ракеты пераадольваюць у працягу 25 мінут. На нашым здымку бачым іншую, таксама хіба важную, разнавіднасць савецкай ракетнай зброі — ракеты аперацыйна-тактычныя зямля-зямля.**



## Чвэрць стагоддзя назад




Каля дваццатага студзеня сувязны паведаміў, што на кантактным пункце, на хутары каля Дубна, чакае Косця.

— Што там у Бельску магло здарыцца? — звярнуўся да мяне Нячаеў. — Ён жа сур'ёзна хворы, ледзь трымаецца на нагах!

— Мо правал? Мо каго з нашых арыштавалі, — адказаў я.

Мы неадкладна адправіліся на хутар.

Косця прывітаў нас з усмешкай. «Нічога страшнага не здарылася», — падумаў я і напаў на Косцю:

— Чаму без дазволу пакінуў Бельск? Чаму не выслаў сувязнога?

— Не меў нікога пад рукой, а справа нязвыклая, — адказаў Косця. — Гаўляйтэр Кох прыязджае ў Бельск!

— Кох?.. у Бельск? — здзівіўся Нячаеў. — Адкуль такая інфармацыя?

— Ад Віта. Учора пад вялікім сакрэтам падзяліўся з ім гэтай весткай шэф бельскага гестапа Шрэдар.

— Выбачай, Косця, але большага глупства ты зрабіць не мог, — сказаў я. — Яны ведаюць, што Віт бывае ў цябе. Што, калі яны яго падазраюць? Падсунулі яму кручок, ён яго глытнуў: перадаў вестку табе. А цябе ўзялі пад нагляд і сцвердзілі, што як дурны панёсся да нас. Што тады? Першы ляжыш ты, Віт за табою, потым Фалькоўская і г.д.

— Я ішоў асцярожна, — сказаў Косця. — «Хваста» за мной не было.

— Уявім сабе, што Шрэдар сказаў праўду, і Кох сапраўды прыедзе, — сказаў Нячаеў. — Што тады?

— Я вам гавару, што гэта праўда, — запэўніў Косця. — Шрэдар загадаў чысціць гасцініцу. Ад учарашняга вечара робяць там парадкі, але ніхто не ведае навошта.

— Гэта можа быць і праўда, але таксама можа быць і дым у вочы. Што ты, Васіль Іванавіч, прапануеш? — спытаў я Нячаева.

— Алесь паедзе першы, папярэдзіць таварышаў, за ім паедзе Косця. У Бельск увойдзе не з боку Боцек, але ад Беластока. Ва ўмоўленым месцы даведаецца аб становішчы. Калі ўсё ў парадку, трэба дзейнічаць далей. За любую цану здабыць кагосьці з абслугі гасцініцы. Найлепш з персаналу кухні. Хай гэтым зоймецца Фалькоўская. Алесь паедзе ў Бельск неадкладна. Цябе, Косця, адвязем заўтра раніцай. Няма ў вас часам у Бельску надзейнага аптэкара?

— На жаль, няма. А навошта ён?

— Так сабе. Калі Кох не прыедзе зарана, мо нешта ўдасца зрабіць. Цяпер адпачывай, да пабачэння.

Калі мы засталіся ўдваём, Нячаеў сказаў:

— Ідзі ў Дубна, а я вярнуся ў зямлянку. Неадкладна вышлю групу ў атрад Жукава.

— Навошта?

— Ведаеш, што гадзіннікавых мін у нас няма. Трэба іх чымсьці замяніць. Застаецца адзіны сродак — атрута. Яе таксама ў нас няма, але трэба яе здабыць. Ідзі ў Дубна да Тарлецкіх. Хай Хрысціна неадкладна адпраўляецца з Алесем у Бельск. Старэйшая жанчына, ніхто не зверне на яе ўвагі. Ёй перадасі інструкцыю ў справе Косці і яго групы. Хай возьме з сабою пабольш марак. Калі будзе бачыць, што ўсё ў парадку, хай грошы перадасць Косці. Прыдадуцца, калі трэба будзе кагосьці купіць з абслугі гасцініцы. Праз знаёмых лекараў хай пастараецца дастаць атруту. Я накірую групу пад Бранск да Разіна з загадам дастаць праз сваіх людзей атруту ў аптэкара ў Бранску. Хай Разін возьме ў свайго банкіра, старога Дазіда, крыху золата і перашле нам. Хай таксама пашле людзей да Аляксеюкоў у Кобусы: мо наш лекар знойдзе атруту ў Цеханоўцу. А вось пашчасціцца нам і вытруцім гэтых гадаў. Калі сапраўды прыедзе Кох, дык прыедзе не адзін, але са світай такіх жа катаў, як і сам.

Мы рассталіся.

Два наступныя дні жылі мы ў нервовым напружанні. Урэшце высветлілася, што шэф бельскага гестапа ў замаскаваным выглядзе, але рашуча, наводзіць у Бельску парадкі, рыхтуецца да сустрэчы з высокім госцем. Уздыхнулі мы з палёгкай. На трэці дзень Косця атрымаў дакладныя інструкцыі, дзве порцыі атруты і крыху золата. У адказ Косця перадаў нам суцяшальную вестку: нашым жанчынам удалося здабыць працаўніцу гасцінічнай кухні. Косця называў яе крыптанімам «Ксеня».

Крытычнага дня прыехала ў Бельск некалькі элегантных лімузінаў пад эскортам бранявікоў. Спыніліся яны перад сядзібай крэйскамісарыята. З самаходаў высела некалькі ў цывільным і каля дваццаці вайскоўцаў у мундзірах гестапа і СС. Наведалі яны крэйскамісарыят, сядзібу гестапа, урэшце пад'ехалі пад гасцініцу, дзе быў падрыхтаваны абед.

Косця папярэдзіў сваіх людзей, каб былі напагатове. Не ведалі яны ў чым справа. Ведалі толькі, што сёння трэба

# ТРЫБУНА чытачоў

### ПАВЕДАМЛЕННЕ

Акруговая камісія даследвання гітлераўскіх злачынстваў у Беластоку звяртаецца з просьбаю да ўсіх жыхароў Беластоцкага ваяводства аб інфармацыі, хто ведае аб злачыннай дзейнасці ў перыяд гітлераўскай акупацыі на тэрыторыі, якая належала ў той час да Бельскага павета, МАКСА БРЭСЭНА, маючага прозвішча СБЖЭСНЫ.

Вышэй успомнены нарадзіўся 15.XII. 1907 года ў Зігэрсфэльдэ/Лік, або ў вёсцы Карбоўскія, пав. Элк.

Ад студзеня 1943 года да ліпеня 1944 г. Сбжэсны выконваў функцыю амтскамісара ў Дзмітравічах і Ратайчыцах (зараз БССР).

Сбжэснага падазраваецца за ўдзеле ў забойстве двух польскіх грамадзян.

Усе інфармацыі на тэму злачыннай дзейнасці Сбжэснага трэба кіраваць па адрасу: Акруговая камісія даследвання гітлераўскіх злачынстваў у Беластоку, вул. Кюры-Складоўскай 1, пакой 78 (тэлефон 20441, унутр. 25) — пісьмова або асабіста.

### АБ КУЛЬТУРЫ Ў ПЯНЬКАХ

У Пяньках, Беластоцкага павета, заможнай вёсцы, няма святліцы, няма дзе збірацца ні моладзі, ні старэйшым. Раней калі-некалі збіраліся ў школе. Але школа ў апошні час падзелена на некалькі залаў і ўсе яны маленькія. З нейкім вольным памяшканнем або святліцай звязваецца культурная дзейнасць, аматарскі рух. Калісьці быў мастацкі калектыў у Пяньках. Даваў добрыя канцэрты, займаў добрыя месцы на аглядах. Але яго ўжо даўно няма. А каб вярнуць былую славу мастацкага характару, каб працаваў драмгурток ці харавая група, патрэбнае памяшканне для яго працы. Жыхары Пяňкоў у мінулым годзе пастанавілі збудаваць святліцу. Пры фінансавай дапамозе сельгасгуртка купілі ў Беластоку будынак з «пшэтаргу» і перавезлі яго ў сваю вёску. Грамадскім чынам узяліся за будову святліцы. Праца гэта ацэнена на 160 тысяч злотых. Асталося ўжо толькі выканчыць, і будзе прыгожая святліца.

І думаем, што тут пачнецца добрая праца. Патрэбны нам і драмгурток, і харавы калектыў. Сярод моладзі ёсць шмат запаленцаў да ўтварэння музычнага гуртка. Але тут патрэбныя інструменты, патрэбны кіраўнік. Наша моладзь марыць таксама аб утварэнні моцнай спартыўнай групы. Цяпер ідуць старанні, каб атрымаць неяк пляц на выгодную спартыўную пляцоўку. У нас многа ахвотных да працы, да дзейнасці. Трэба нам аднак крыху дапамогі і з боку Саюза сялянскай моладзі, і Беларускага таварыства, і спартыўных улад.

**Уладзімір Азябла**
**Пянькі**

---

быць вельмі асцярожнымі, бо можа здарыцца лапанка. Фалькоўская не адыходзіла ад тэлефону. Ведала, што калі нешта здарыцца, Віт паведаміць. Але тэлефон маўчаў.

Гэтага дня ў горадзе нічога не здарылася. Падхмеленыя ў часе абеду гітлераўцы ў вясёлым настроі пакінулі тасцініцу, селі ў самаходы і... паехалі.

... — Чаму не выканала задання?! — напала Забалотная на «Ксеню». — Пабаялася? Такая была аказія! Ці ты ведаеш, што ты зрабіла?

— Клянуся, не магла! — апраўдвалася «Ксеня». — Бяры сваё золата, бяры грошы, не хачу нічога, не хачу нічога! Паверце, не магла. Ад раніцы абставілі ўсе дзверы, нікога не ўпусцілі і не выпусцілі. На кухню ўвайшоў гестапавец, загадаў нам уставіцца пад сцяною. Хадзіў і заглядаў кожнаму ў вочы. Глянуў на мяне, бы кобра, думала, што праб'е мяне гэтымі страшнымі слепакамі, думала, што ўбачыць ён схаваную пад станікам атруту. Думала, што не вытрымаю, упаду. Сядзеў у кухні, не спускаў з нас позірку. Калі ўсё было гатовае, прыйшлі двое, адсунулі кухара, узялі пробкі ў слоікі і панеслі недзе наверх. Цяпер нікому не дазвалялі падысці да ежы. Потым тыя вярнуліся, сказалі, што ўсё ў парадку, і ўжо не выйшлі з кухні. Не толькі я, але ніхто не мог нічога зрабіць. Клянуся, так было...

**Ян Анацік**

W roku 1969 obchodzimy ćwierćwiecze Polski Ludowej. Jedną z najbardziej znamiennych cech tego okresu to niespotykany w dotychczasowych dziejach narodu awans klasy robotniczej i chłopskiej.

Twórczy dorobek, pozycja społeczna i osobiste sukcesy osiągane były często heroicznym wysiłkiem jednostek. Zdobywaniu wiedzy towarzyszył zapał, ale także wątpliwości i niespełnione nadzieje.

Chcąc ukazać głębię i złożoność tego procesu redakcja „Zielonego Sztandaru" wspólnie z Komitetem d/s Radia i Telewizji, ZG ZMW, LSW oraz TWP ogłasza konkurs.

## „Moja droga do wiedzy"

W konkursie może wziąć udział każdy, kto opisze motywy podjęcia nauki, warunki kształcenia, atmosferę otaczającą uczącego się na uczelni, w szkole i w środowisku rodzinnym. Opis w zasadzie powinien dotyczyć okresu Polski Ludowej, może jednak nawiązywać do lat międzywojennych i okupacyjnych. Pożądane są również refleksje wybiegające w przyszłość, związane z perspektywą rozwoju wiedzy, oświaty i kultury w Polsce.

Forma i objętość prac konkursowych dowolna.

Prace podpisane godłem wraz z oddzielną zamkniętą kopertą z nazwiskiem i adresem prosimy przesyłać do dnia 1 maja 1969 r. na adres: Redakcja „Zielonego Sztandaru", Warszawa, ul. Grzybowska 4/6. Oceny nadesłanych prac dokona Sąd Konkursowy pod przewodnictwem prof. J. Chałasińskiego.

Wyniki konkursu ogłoszone zostaną przed 22 lipca 1969 r.

Najlepsze prace wyróżnione będą następującymi nagrodami: I — 10 tys. zł, II — 5 tys. zł. III — 3 tys. zł, 10 wyróżnień po 1 tys. zł oraz wiele nagród rzeczowych.

Organizatorzy zastrzegają sobie prawo innego podziału nagród. Prace publikowane będą honorowane oddzielnie. Pełny tekst odezwy konkursowej ukazał się w „Zielonym Sztandarze" (nr 2 z 5 stycznia i nr 4 z datą 12 stycznia br.).

### ГУРТКІ ССМ

У Сакольскім павеце існуе 124 гурткі Саюза сялянскай моладзі. Да найлепш працуючых залічваюцца гурткі ў Немчыне, Тэоліне, Прыстаўцы, Войнаўцы і іншых вёсках. Да найслабейшых залічаюцца гурткі ў Вярхлессі і Навадзеліне.

**(мс)**




**Дарагое Сэрцайка!**

Мне шаснаццаць год. Я хаджу яшчэ ў школу. Восенню пазнаёмілася я з Віцем, які жыве ў суседняй вёсцы (там быў фэст і я гасцявала ў свайго дзядзькі). Ён жыве па-суседску з маім дзядзькам. Мне вельмі ён спадабаўся. Я яму таксама, як потым гаварыў. Ад гэтага часу мы пачалі часцей сустракацца: Віця прыязджаў у нашу вёску, бо тут мае калегаў, і на забаве мы сустракаліся. Перапісваліся таксама. Ад нядаўна я засталася «не сама». І хоць дрэнна сябе адчуваю, аднак мама нічога не дадумоўваецца. Віця перастаў ездзіць і пісаць лісты, хоць нічога яшчэ аб гэтым не ведае. Чула я, што ездзіць да дзяўчыны старэйшай ад мяне ў іншую вёску. Ён таксама яшчэ малады, бо перад войскам. Не ведаю, што мне рабіць, ці прызнацца перш маці, ці паехаць у вёску да Віці і сказаць усё яму. Найгорш, што я яшчэ вучуся. Парай, Сэрцайка.

**Галя з Сямяціцкага**

Галю! Так, гэта сур'ёзная, вельмі сур'ёзная справа, а на лаянку, на жаль, ужо позна. Як ты магла заняцца такімі справамі, да якіх яшчэ не дарасла. І ты ж не раз напэўна чытала аб такіх праблемах. І ты, замест кніжкі, замест навукі, накіравала свае зацікаўленні ў тым кірунку? Ты яшчэ непаўналетняя, вінаваты тут таксама і хлапец, аднак памятай, найбольш віны тваёй. Цяпер раю табе сказаць аб гэтым як найхутчэй сваёй маці, хай яна вырашыць, што рабіць далей. На маю думку, ты з маці павінна пайсці да лекара і пазбыцца цяжарнасці, бо ты ж яшчэ замаладая (ходзіш у школу), ён таксама яшчэ не кандыдат на мужа. Дык і невядома, ці ён захацеў бы жаніцца з табою. Таму і ў тым выпадку мне здаецца, што няма чаго і гаварыць аб гэтым Віцю. Аднак памятай, што можаш пазбыцца не толькі цяжарнасці, але і мацярынства на ўсё жыццё. Такая магчымасць заўсёды існуе. Гэта мой погляд на тваё становішча, але апошняе слова належыць тваёй маці.

**Сэрцайка**

**У Бельску Падляшскім**

### БУДЗЕ ДОМ САЛДАТА РЭЗЕРВЫ

Па ініцыятыве павятовага праўлення ЛОК (Ліга абароны краіны) і клуба афіцэраў рэзервы ў Бельску Падляшскім будзе пабудаваны Дом салдата рэзервы. Нядаўна быў паклікаиы 31-асабовы грамадскі камітэт пабудовы. Старшынёю выбраны першы сакратар Павятовага камітэта ПАРП Юзэф Пяхоўскі. Дом будзе пабудаваны пры дапамозе грамадскага чыну жыхароў Бельска. Кошт будовы акрэслівaецца сумай 1.200 тыс. злотых.

У будынку гэтым змяшчацца будуць наступныя ўстановы: Павятовае праўленне ЛОК, клуб афіцэра рэзервы, зала для чытання лекцый для цэнтра маторнай адукацыі, клуб паштоўцаў, памяшканні для праўленняў ЗБоВіД і Саюза ваенных інвалідаў і святліца.



Прэзідыум камітэта будовы.

### КЛУБ СУВЯЗІ ЛОК

Пры аддзеле Ваяводскай спажывецкай спулдзельні «Сполэм» у Бельску Падляшскім ужо два гады існуе клуб сувязі ЛОК. Члены гэтага клуба два разы ў тыдзень ходзяць на заняткі па радыётэхніцы і электратэхніцы.

Падчас практычных заняткаў курсанты рамантуюць радыёпрыёмнікі і радыёлы. Выкладчыкамі з'яўляюцца Ян Ясевіч (ён прэзас), а таксама інструктары Андрэй Янушэўскі і Казімір Савіцкі.

**Тэкст і фота**
**Павел Зіневіч**
**Бельск Падляшскі**



Юльян Мяжвінскі ў час рамонту радыёпрыёмніка.



Дзіцячы карнавальны баль у клубе чыгуначніка ў Плянце (Гайнаўскі павет).

фота: Янка Цялушэцкі

### ПАМАГЛІ СТАРУШЦЫ

Цяжка жывецца старэнькай жанчыне Вользе Лук'янюк з Белак, у Гайнаўскім павеце. У яе хаце дрэнныя печы, вельмі дымяць і слаба абаграваюць хату. Не заўсёды мае яна чым паліць. Не хапае часам і харчовых прадуктаў.

Вользе Лук'янюк у мінулым годзе дапамагла настаўніца Яніна Сахарчук. Яна са сваімі вучнямі назбірала старушцы дроў. Назбіралі вучні таксама для яе бульбы. Старушка вельмі ўдзячна настаўніцы і школьнікам.

**Ярош**
**Гайнаўскі павет**

### МАЛАКО

Лепшая паша, рацыянальны корм гарантуе развіццё жывёлагадоўлі. А калі разыходзіцца аб надоі малака, дык у 1968 годзе павялічыліся яны ў сярэднім на 150 літраў у год на адну карову. Сакольская акруговая малачарня закупіла ў мінулым годзе больш 10 мільёнаў літраў малака. (сс)

# КІНО

### БЕЛАСТОК

**БГКТ**

«Мікалай Бауман» — 23.II. 1969 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Zerwany most" (polski), „Eroica" (polski), 26.II. — 2.III.

**Нараўка**

„Hasło Korn" (polski), „Niepokoje wychowanka Torlesa" (NRF), 26.II. — 2.III.

**Нарва**

„Gdzie jest generał" (polski), „Czerwone berety" (polski), 26.II. — 2.III.

**Чыжы**

„Zamach" (polski), „Zakazane piosenki" (polski), 26.II. — 2.III.

**Дубічы Царкоўныя**

Byłam głupią dziewczyną" (węgierski), „Przed wojną" (jugosł.), 26.II. — 2.III.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Szybsza od wiatru" (radz.), „Falstaff" (hiszpański), 26.II. — 2.III.

**Орля**

„Intrygantki" (czeski), „Noc Iguary" (USA), 26.II. — 2.III.

**Райск**

„Skarb bizantyjskiego kupca" (czeski), „Nikt nie chciał umierać" (radz.), 26.II. — 2.III.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Złodziej brzoskwiń" (bułg.), „Barwy walki" (polski), 25—28.II.

**Міхалова**

„Zerwany most" (polski), 25—26.II. „Nieznany" (polski), 27—28.II. „Westerplatte" (polski), 1—2.III.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„O carski tron" (bułg.), 25—26.II. „Drugi człowiek" (polski), 27—28.II.

**Шудзялава**

„Faraon" (polski), „Panowie z kompleksami" (włoski), 26.II. — 2.III.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Opowieść znad Donu" (radz.), 25—26.II. „Agnieszka 46" (polski), 27—28.II. „Dzień, w którym wypłynęła ryba" (grecki), 1—2.III.

**Новы Двор**

„Hasło Korn" (polski), „Miałem 19 lat" (NRD), 1—2.III.

**Ліпск**

„Hrabina Cosel" (polski), „Spotkanie na przeprawie" (radz.), 1—2.III.



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7013

